Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
25 кастрычніка 2001 г.
№ 43 (539)
Кошт 120 рублёў

## Суд над ПАГОНЯЙ прыпынены

**23 кастрычніка суддзя Вышэйшага Гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь Валерый Жандараў прыпыніў на нявызначаны тэрмін судовую справу аб закрыцці ПАГОНІ. Працэс адновіцца пасля таго, як Гаспадарчы суд Гарадзенскай вобласці разгледзіць справу аб прызнанні несапраўдным папярэджання, вынесенага газеце Пракуратурай Гарадзенскай вобласці. Пракуратура вынесла ПАГОНІ папярэджанне за артыкулы, якія былі змешчаныя ў арыштаваным 5 верасня нумары газеты.**

Перад пачаткам працэсу ахоўнікі Вышэйшага Гаспадарчага суда загадалі прысутным журналістам пакінуць у гардэробе дыктафоны і тэлекамеры. Кіраўнік Цэнтра прававой дапамогі СМІ пры Беларускай Асацыяцыі журналістаў Міхаіл Пастухоў, які прадстаўляе ў судзе інтарэсы ПАГОНІ, расцаніў дзеянні ахова як грубае парушэнне правоў журналістаў.

Пасяджэнне па справе ПАГОНІ доўжылася 18 хвілінаў. Рашэнне аб прыпыненні справы суддзя Валерый Жандараў прыняў пасля таго, як даведаўся, што ПАГОНЯ падала спасызк аб скасаванні апошняга папярэджання, вынесенага ёй Пракуратурай Гарадзенскай вобласці.

Нагадаем, што два папярэднія пасяджэнні суд пераносіў па віне пракуратуры, якая своечасова не прадастаўляла неабходных дакументаў.

- *Я абураны беспрэцэдэнтным зацягваннем працэсу, дзе нават не юрысту зразумела, што прэтэнзіі пракуратуры да ПАГОНІ не базуюцца на законе,* - **заявіў адразу пасля суда рэдактар газеты Мікола Маркевіч.** - *Расцэньваю такія дзеянні як шантаж з мэтай аказання ўціску на пазіцыю ПАГОНІ.*

**Павал Мажэйка**

## «Баторыя» не будзе працаваць ўначы

**З 1-га лістапада адна з самых буйных начных крамаў Гродна «Баторыя», што на Савецкай плошчы, больш не будзе працаваць кругласутачна. Яна пераходзіць на дзённы рэжым працы з 7.00 да 00.30. Такое рашэнне вынес Гарадзенскі гарвыканкам у адказ на ліст абураных гарадзенцаў.**

У гарвыканкам паступіла скарга ад жыхароў дома N10, па вуліцы Крупскай, дзе месціцца Гандлёвы дом, на шум і небяспечную крымінальную сітуацыю ў раёне крамы. Дырэктар «Баторыі» Віктар Палякшанаў сцвярджае, што кіраўніцтва магазіна выраша ла пайсці на саступкі жыхарам, і рашэнне гарвыканкама прымалася з яго згоды.

- Нармальны чалавек уночы за пакупкамі не пойдзе. Ні ў адной цывілізаванай краіне крамы кругласутачна не працуюць, - гаворыць спадар Палякшанаў. - Навошта нам разводзіць у сябе бамжатнік? Тым больш, што мы не мелі вялікага прыбытку ад начнога гандлю.

Прынятае рашэнне выльецца Гандлёваму дому ў некаторыя фінансавыя выдаткі. На дадзены момант у краме праводзяць сігналізацыю. А з першага лістапада плануецца скарачэнне працоўнага штату на 10-12 чалавек.

**Марыя Тапілеўская**




**25 кастрычніка ўначы** - малавоблачна, вецер ноччу паўночны, удзень - паўднёвы, 1-5 м/с, удзень - воблачна, вецер паўночна-заходні, 1-3 м/с; тэмпература паветра **ўначы** -6...-11, удзень +1...+3. **26 кастрычніка** - воблачна, вецер ўночы паўночна-заходні, 2-5 м/с, удзень - паўднёва-заходні, 1-3 м/с; тэмпература паветра **ўначы** -4...-6, удзень +3...+5.

# Лёха, Андрэй і кабыла Маша

**Закіданы капуснымі лістамі ды цвілым хлебам воз плаўна абмінуў цёмнасіні «Mercedes» і ўціснуўся між іншамаркамі ў чаргу на светлафоры ля Фарнага касцёла. Зараўлі матору, рыпнулі аглоблі, і воз паволі сунуўся далей па вуліцы Карла Маркса. За сваё доўгае працоўнае жыццё кабыла Маша вывучыла на памяць шлях ад турмы ў падсобную гаспадарку асобнага чацвёртага батальёна міліцыі, што ў вёсцы Панямунь. З дня ў дзень возіць яна двух салдатаў тэрміновай службы ў турэмную, а заадно і батальёнскую сталоўкі, што па вуліцах Кірава і Чырвонаармейскай, за харчовымі адходамі.**



...А кабыла – лепей!

Адходамі салдаты Лёха і Андрэй, якія зараз служаць у Панямуні, кормяць карову, двух быкоў і яшчэ з паўсотні свіней - «асабовы склад» падсобнай гаспадаркі батальёна. Неўзабаве адкормленыя жывёлы пойдуць на катлеты і шніцэлі ў вайсковую сталовую і замкнуць тым самым харчовы кругазварот вайсковай часці N5522.

Сталай машыны панямунская гаспадарка ніколі не мела. Па-першае, вайсковая часць эканоміць на бензіне, а па-другое, пры машыне заўсёды мусіць быць старэйшы - за яе трэба адказваць. Кабыла Маша адзіны, хай і не хуткасны, але правераны сродак перамяшчэння ў гаспадарцы.

З-за дробненькага целаскладу і выліналай поўсці яна выглядае зусім старэнькай, хоць на самой справе мае гады чатыры, сярэдні для працоўнай кабылы ўзрост. Некалькі тыдняў таму салдатам нават давялося прымаць у яе роды. Добра, у гаспадарцы служылі тады хлопец, які меў заатэхнічную адукацыю. Ён і заняўся гэтай працэдурай. Таму Маша ажарабілася без праблемаў.

Пэўны час, калі кабыла была яшчэ слабой пасля родаў, хлопцы ездзілі ў сталоўкі на машыне. Аднак сумавалі без Машы надоўга: тая хутка заняла сваю адказную пасаду.

Салдаты міліцэйскага батальёна Лёха і Андрэй ўжо паўгода нясуць службу ў вёсцы Панямунь. Радавога Лёху служыць прызвалі з Краснасельска. Кіравацъ возам ён навучыўся толькі ў войску.

- Вой, ды я ўжо нармальна кірую. Толькі людзі ўвесь час здзіўлена азіраюцца, - дзеліцца ўражаннямі ад язды на возе Лёха. - Кіравацъ кабылай па гораду лічыцца ў нас вышэйшым пілатажам: ракаценне аўтамабіляў раздражняе Машу, да таго ж яе трэба прымусіць выконваць правілы дарожнага руху. Але наша Машка - кабыла спакойная, і асаблівых турботаў не прыносіць, - апраўдвае яе Лёха.

Калі я развіталася з хлопцамі, ужо вечарэла. Маша спакойна скубла траўку ў полі - на сёння яе працоўны дзень быў скончаны. А заўтра зранку Машку зноў запрагуць ў воз, і яна выправіцца ў свой чарговы рэйс за капуснымі лістамі.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Нямецкім гасцям пакажуць балет «Лялечкі»

**У бліжэйшую суботу наш горад з піцідзённым візітам наведае дэлегацыя з нямецкага Міндэна. Падчас візіту будуць завязаны больш цесныя сувязі паміж гарадамі-пабрацімамі Міндэнам і Гродна.**

Як паведамілі ПАГОНІ ў Гарадзенскім гарвыканкаме, нямецкая дэлегацыя прыбудзе ў складзе 18 чалавек. Яе ўзначаляць два віцэ-мэры Міндэна - спадарыня Вільтраўт Вінтэр і спадарыня Альбехайт Траўэ. Цікава, што абедзве жанчыны-палітыкі належаць да партыяў-антаганістаў: сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі і Хрысціянска-дэмакратычнага Саюза адпаведна. Як бачым, гэта не перашкаджае ім сумесна дзейнічаць у кіраванні горадам.

Палітычны спектр нямецкай дэлегацыі пашырыць таксама дэпутат ад фракцыі «Зялёных». Акрамя палітыкаў, дэлегацыя будзе прадстаўлена грамадскімі дзеячамі Міндэна, якія зацікаўленыя ў развіцці абмену паміж нашымі гарадамі ў трох накірунках: спорт, культура і адукацыя.

Што датычыцца апошняга, дык ужо сёння шчыльныя кантакты з адной са школаў Міндэна падтрымоўвае гарадзенская школа N15. Менавіта яе і наведае ў межах праграмы візіту нямецкая дэлегацыя. Апроч таго, плануецца, што госці сустрэнуцца з акадэмічнай грамадскасцю горада ў Гарадзенскім дзяржуніверсітэце, наведаюць Дом сіротаў, сельскагаспадарчае прадпрыемства «Абухава», дзе пабачаць выступленне танцавальнага балета «Лялечкі».

Частка гасцей з Міндэна будзе расселена па гарадзенскіх сем'ях, што дазволіць немцам адчуць быт гарадзенцаў. Візіт дэлегацыі завершыцца 31 кастрычніка.

**Анджэй Пісальнік**

## Нарэшце затапілі. Але каштаваць гэта будзе даражэй

**З прычыны рэзкага пахаладання ацяпляльны сезон у Гродне пачаўся апаратыўна і сінхронна для ўсіх. У аўторак падключылі батарэі і ў садках, і ў школах, і ў жылых дамах, і ва ўстановах аднаячасова.**

Як паведамілі нам ў гарадской жыллёва-камунальнай гаспадарцы, да канца тыдня да цяпла будуць падключаныя ўсе будынкі горада.

Паводле словаў намесніка начальніка жыллёва-камунальнага ўпраўлення аблвыканкама **Аляксандра Міхалёва**, турбавацца пра цяпло ў кватэрах узімку не варта.

- *Адрамантавана 205 кацельных горада, пракладзена 27 кіламетраў цепласетак. Гэта, канечне, не ўсё, але з-за дарагавізны рамонтных работаў мы не ў стане зрабіць рамонт на ўсім працягу сетак.*

На сённяшні дзень назапашана 100 працэнтаў неабходнага для ацяпляльнага сезону паліва - тут турбавацца няма пра што...

З пачаткам ацяпляльнага сезону камунальныя плацяжы ўзрастуць прыкладна на 50 працэнтаў. У лістападзе, адпаведна нядаўняй індэксацыі, аплата за 1-пакаёвую кватэру складзе каля 12 тысяч рублёў, 2-пакаёвую - 17 тысяч і за 3-пакаёвую - 24 тысячы рублёў. **На наступны год Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі плануе давесці долю аплаты камунальных паслуг насельніцтвам да 40 працэнтаў.**

**А.С.**

## Збілі «Пагоню»

**Акт вандалізму ўчынены ля Каложскай царквы. З помніка «Пагоня на Грунвальдзе», усталяванага тут напрыканцы 80-х гадоў, збілі шыльду з выявай старажытнага беларускага герба «Пагоня».**

Настаяцель Каложскай царквы святар Аляксандр Велісейчык гаворыць, што шыльда была збіта ў ноч з 13-га на 14-е кастрычніка.

- *14-га кастрычніка пасля раніцінай нядзельнай службы нейкі беларускамоўны хлопец заўважыў, што шыльда ляжыць ля помніка. Ён падняў яе і папрасіў мяне перанесці ў царкву на захаванне,* - **распавёў Аляксандр Велісейчык.**

Паводле ягоных словаў, шыльда акуратна ляжала ля помніка, так што цяжка сказаць: ці яе збілі, ці яна сама ўпала.

Аднак Рыгор Фарманян, які прымацоўваў шыльду, сцвярджае, што яна была добра прыладжаная і «ні ў якім разе сама па сабе не магла адваліцца».

Зрываюць шыльду з выявай «Пагоні» не першы раз. Некалькі гадоў таму яе скралі. Шыльда была зробленая з бронзы, і нехта пакваліўся на каляровы метал, які карыстаўся ў той час попытам. На месцы скрадзенай была ўмацавана новая алюмініевая шыльда. Менавіта яе зараз і збілі.

**Ганна Паўлючонак**

**Адзіную на Беларусі рэгіянальную газету праваахоўных органаў «Міліцэйскі веснік» віншуе з 5-годдзем адзіная на Беларусі газета з назвай «ПАГОНЯ». Да наших стасункаў пасуе прымаўка: «Хто каго любіць, той таго і чубіць». Таму ў гэты святочны для Вас дзень жадаем Вам любові і талеранцыі! Трымайцеся, Менты! Мы пераможам!**

ПАДЗЕЯ

# Абласны бюджэт: «Кому я должен – всем прощаю!»

**Сесія аблвыканкама, прысвечаная пытанням развіцця народнай гаспадаркі за дзевяць месяцаў бягучага года, якая адбылася ў мінулы чацвер, у чарговы раз канстатавала глыбокі крызіс фінансава-эканамічнага стану вобласці. Але, відаць, нікога з кіруючага звяна рэгіёна гэта ўжо не палохае. Звыкла паслухалі суровыя наказы галавы абласной адміністрацыі Уладзіміра Саўчанкі і разышліся па сваіх кабінетах ды прадпрыемствах далей «круціцца» ў прапанаваных дзяржавай умовах.**

А сітуацыя нярадасная. Супакойваюць толькі паказчыкі росту прамысловай вытворчасці (101 працэнт) і вытворчасці тавараў народнага спажывання (104,4 працэнта да адпаведнага перыяду мінулага года). Але незразумела, каму патрэбныя гэтыя так званыя паказчыкі, калі запасы вышэйназваных тавараў на складах у кастрычніку перасягнулі 42 працэнты месячнай нормы. «Вылучыліся» ў гэтым прадпрыемствы: «Гроднаабутак», Гарадзенская тытунёвая фабрыка, завод «Оптык» (г.Ліда).

За восем месяцаў года павялічылася колькасць стратных прадпрыемстваў - з 20 да 35-ці працэнтаў, а рэнтабельнасць складае ўсяго пяць працэнтаў. Крайне складанае фінансавае становішча прадпрыемстваў. Працягнецца вымыванне абаротнага капіталу. У вытворчасць інвеставана на сем працэнтаў меней сродкаў, чым у мінулым годзе. А замежныя інвестыцыі ў вобласці сёння складаюць усяго толькі 2,2 працэнта. Адзначана падзенне даходаў ад платных паслуг на шэсць працэнтаў. Стратным прадпрыемствам не маюць змогі дапамагчы ні падатковыя ільготы, ні ільготы па аплаце за газ ці электрычнасць.

### Будаўніцтва

Каб выканаць заяўлены план па жыллёваму будаўніцтву, у чацвёртым квартале трэба здаць яшчэ каля 1700 кватэраў. Для гэтага спатрэбіцца прыблізна пяць мільярдаў рублёў. Скуль іх узяць? Асноўную стаўку кіраўніцтва вобласці робіць на банкаўскія крэдыты. Наўрад ці банкірам гэтая перспектыва будзе ў радасць. Абласны бюджэт яшчэ не пагасіў ранейшы крэдыт у 4,2 мільярда рублёў, узяты ў «Беларусбанку».

### Транспарт

Значна знізіў аб'ём грузаперавозак аўтапарк вобласці. Асноўная прычына, як вызначыў яе намеснік старшыні аблвыканкама Вячаслаў Баркоўскі, - адмова кліентуры. На жаль, ён не ўдакладніў, з якой прычыны пакінулі падабацца кліентам гарадзенскія перавозчыкі. Аднак лічбу стратаў, якія з-за гэтага панёс Гроднааблаўтатранс, агучыў. Складае яна на сёння 761 мільён рублёў і да канца года, паводле меркавання спадара Баркоўскага, перасягне 1 мільярд. Не прамінула бяссэнсная для транспартнікаў і папулісцкая акцыя прэзідэнта - бясплатны праезд студэнтаў. Яна дадала ў графу «страты» яшчэ 190 мільёнаў рублёў.

### Бюджэт

Абласны бюджэт недаатрымаў больш як 48 працэнтаў паступленняў да гадавога плану. А да канца года засталося крыху болей за два месяцы. Даўжнікоў хапае. Толькі вытворчае аб'яднанне «Азот» завінавацілася больш як пяць мільярдаў рублёў, і гэтае прадпрыемства, адпаведна дадзеным начальніка Упраўлення фінансаў Міхаіла Шабана, не плануе прыбытку да канца года. Каля аднаго мільярда рублёў у абласную казну не дадала з акцызаў лікёра-гарэлачная галіна (Няўжо нават піць меней сталі?). Затое - якая радасць! - дзякуючы таму, што ў нас у вобласці 1440 юрыдычных асобаў ды індывідуальных прадпрымальнікаў аказаліся ў выніку праверак парушальнікамі, у бюджэт паступіла болей за чатыры мільярды рублёў дадатковых плацяжоў па штрафах і санкцыях.

Расходная частка плача горкімі слязьмі. Тут адны даўгі. Больш як чатыры мільярды рублёў бюджэт завінаваціўся жыллёва-камунальнай гаспадарцы. Але, як заявіў Уладзімір Саўчанка, з начальніка абласнога ўпраўлення спадара Рысіка трэба браць прыклад - ён тых грошай не патрабуе. Разумее сітуацыю, увайшоў у становішча. Відавочна, дзіравым дахам, прагнілым трубам, аварыйным каналізацыям, ачышчальным збудаванням ды іншым элементам жыллёва-камунальнай гаспадаркі гэта таксама патрабуецца ўсвядоміць і не чакаць бліжэйшым часам рамонту. Крыху менш, прыблізна 1 мільярд вінаваты бюджэт транспартнікам. Затраты ў іх выраслі ўдвая, а тарыфы за перавозкі не мяняліся ажно са студзеня. Даўгі па заробку бюджэтнікам складаюць у вобласці 6,7 мільярда рублёў ці 14,5 працэнта ад усяго аб'ёму. Гэта самы кепскі паказчык па рэспубліцы, заўважыла ў сваім выступленні старшыня Камітэта па эканоміцы Галіна Ляшчук. Але самымі абдзеленымі сталі сацыяльна-культурныя аб'екты. Ім не дададзена 20 мільярдаў рублёў.

### Што рабіць?

Некалькі разоў Уладзімір Саўчанка заклікаў прысутных «уносіць канкрэтныя прапановы па выхаду з крызісу», але «касцяк кіраўнікоў» аддаваў перавагу адседзецца ціха. Можа, ім не было чаго прапанаваць, а мо яны, дасведчаныя ў гэтай справе, ведалі, што кардынальныя прапановы, якія закрануць саму сістэму гаспадарання (што па-ранейшаму недалёка адышла ад сацыялістычнай), усё роўна не пройдуць. Таму з найбольш «свежых» прапаноў можна назваць адрасаваную ўраду просьбу наконт зніжэння коштаў на энерганосьбіты і зніжэння мытных пошлін на сыравіну для прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці, а таксама адносна ўзмацнення дысцыпліны і кардынацыі намаганняў разнастайных ведамстваў.

**Аддзел інфармацыі**




ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

## Апазіцыя не хоча прымаць на сябе адказнасць за паразу ў выбарах

**У тым, што А.Лукашэнка застаўся кіраваць дзяржавай, асаблівай трагедыі няма. Жыццё працягваецца, і жыццёвыя законы не ў стане змяніць нават нязломная воля Аляксандра Рыгоравіча. Так што ўсё нармальна. Хаця, чаму такая спакойная апазіцыя, ушчэнт разгромленая партыяй улады, зразумець цяжка.**

Ніхто не праводзіць партыйныя сходы ці іншыя форумы. Не тлумачыць, чаму прайгралі барацьбу за ўладу. Не падае ў адстаўку. Не абвінавачвае няўмекаў-паплечнікаў, блізарукіх стратэгаў і засланых правакатараў. Цішыня такая, быццам яны канкуравалі з А.Лукашэнкам не па-сапраўднаму, а для бачнасці. І цяперашні вынік іх цалкам задавальняе.

Каб сітуацыя са справаздачай апазіцыі аб выніках прэзідэнцкай выбарчай кампаніі не выглядала зусім ужо непрыстойна, час ад часу вылучаюцца прапановы адносна таго, як палепшыць становішча апазіцыі. Нехта прапануе выгнаць з Беларусі амбасадара АБСЕ Ханса-Георга Віка, бо ён толькі дапамагаў ненавіснаму рэжыму. Нехта заклікае з'яднацца пад кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, бо ён адзіны легітымны орган у краіне. Нехта запрашае жыхароў Менска паведаміць Уладзіміру Ганчарыку, як яны галасавалі...

Усё гэта нагадвае анекдот пра тое, як Брэжнеў маляваў на паперцы бланка Палітбюро розныя геаметрычныя фігуры, а потым правяраў, як гэта адбіваецца на ўдоях кароваў... Наша апазіцыя можа фантазіраваць колькі заўгодна. Толькі гэта не мае нічога агульнага з рэальнай палітыкай. Таму і мы, электарат, так і будзем да іх ставіцца - як да фантазёраў, казачнікаў, блазанаў, пустазвонаў, няўдачнікаў, лайдакоў, халяўшчыкаў, брахуноў. Шмат хто ўжо даўно гэтак ставіцца да апазіцыі. Калі апазіцыя не вылучыць з сябе здаровыя сілы і не створыць хаця б адну здаровую палітычную арганізацыю, то такое стаўленне будзе агульным.

Адно незразумела. Чаму на А.Лукашэнку раз-пораз нападае страх? Чым такім можа напалохаць апазіцыя нашага ўладара? З такімі дзеячамі апазіцыі А.Лукашэнка можа спакойна займацца ўлюбёнымі відамі спорту хоць да пенсіі. Такую апазіцыю трэба песціць і гадаваць.

Можа, нехта аспрэчыць гэтае меркаванне? ПАГОНЯ з задавальненнем азнаёміцца з думкамі чытачоў адносна вынікаў барацьбы за пасаду Прэзідэнта.

**Сяргей Самасей**

ВОДГУК

## Будуй Беларускія асяродкі!

**Вельмі ўзрадавала мяне навіна пра пачатак будаўніцтва ў пасёлку Пагранічны Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой Храма Святой Ефрасінні Полацкай (гл. ПАГОНЮ №42).**

Гэта сталася магчымым праз 10 год існавання «дэ-юрэ» Рэспублікі Беларусь. «Дэ-факта» - 10 гадоў пакутаў і змагання... На працягу гэтых гадоў дзяржавы-суседкі адбудавалі на Беларусі дзесяткі храмаў. І таму пачатак пабудовы новага Беларускага Храма - падзея вельмі значная і радасная для беларусаў. Трэба аддаць належнае жыхарам пасёлка Пагранічны. 10 год уціску каланіяльнай адміністрацыі іх не зламалі. Яны засталіся згуртаванымі і ўвесь час маральна і матэрыяльна падтрымлівалі бацюшку Яна Спасюка. Кайданкі, арышты, штрафы, галадоўкі... Але яны выстаялі. Яны падалі добры прыклад змагання з акупантам. І вельмі сімвалічна, што ў гэтым змаганні ўдзельнічаюць менавіта «боскія людзі». Значыць, будзе каму маліцца за барацьбітоў і абаронцаў Маці-Беларусі. За вернікамі павінны ісці іншыя. А змагацца ёсць за што. Прыйдзе час, і у беларусаў будуць новыя Храмы, дзіцячыя садкі, школы, вышэйшыя навучальныя ўстановы... Зараз было б добра дапамагчы змагарам матэрыяльна і ахвяраваць на будаўніцтва Храма хоць нейкія сродкі. Трэба, каб Ян Спасюк і яго прыхаджане ўказалі месцы, дзе можна ахвяраваць на будоўлю. Магчымы таксама ўдзел кожнага грамадзяніна ў зборы сродкаў і дапамозе непасрэдна на месцы будаўніцтва ў вольны час. Усе на будаўніцтва Беларускіх нацыянальных асяродкаў!

Радзіма-Маці кліча!

**Мікалай Яўсей**

## Амерыканкі ад'язджаюць, а сетка лідарак застаецца

**Пяць дзён - з суботы да серады - доўжыўся семінар і сустрэчы з грамадскасцю горада трэнераў жаночай арганізацыі Heartland International з Чыкага.**

Трэнеры з Чыкага правялі для групы жанчын з Гродна і Брэста трэнінг-семінар «Жаночае лідарства». Каардынатарка праекта жаночага лідарства ў Беларусі Барбара Элан расказвае:

- З лістапада 2000 года мы меркавалі: якая работа з жанчынамі неабходна ў Беларусі? Высвятлілі, што найперш патрэбныя супрацоўніцтва і камунікацыі, гэта значыць - сетка жаночых арганізацыяў. Улетку 10 жанчын з Беларусі прыехалі ў Чыкага на трэнінг «Стратэгічнае планаванне». Нашай мэтай было павялічыць ролю жанчын у сферы прыняцця рашэнняў на ўсіх узроўнях. Мы хацелі падрыхтаваць упэўненых у сабе жанчын - першапраходцаў, якія могуць прымаць адказныя рашэнні. Ад гэтага будзе карысць і для мужчынаў...

Гарадзенская ж група на чале з Валянцінай Суворынай («Мадэм»), Святланай Руднік («Трэці сектар»), Маяй Чырковай («Гіменей»), са свайго боку, прапанавала гасцям вельмі цёплы прыём: былі ўтульныя хатнія вячэры, выступлені хору «Бацькаўшчына», экскурсіі ды іншае.

**Алена Сіневіч**

# Апосталаў выгналі з сінагогі

**Гаспадарчы суд Гарадзенскай вобласці задаволіў спазыск абласнога аб'яднання прафсаюзаў аб прызнанні несапраўдным дагавора куплі-продажу будынка спартзалы «Спартак» па вуліцы Сацыялістычнай,35 (Да 1995 года - уласнасць прафсаюзаў). Здзелка была заключаная два гады таму паміж гарадзенскай Федэрацыяй вольнай барацьбы (уласнік - з 1995 года) і рэлігійным аб'яднаннем Новаапостальскай царквы ў Рэспубліцы Беларусь. Фармальнай падставай для скасавання стала абмежаванне (на гэтым настойвалі прафсаюзы), згодна з якім спартзала можа быць выкарыстаная «толькі па прамому прызначэнню для правядзення спартова-масавых мерапрыемстваў», а не для, напрыклад, багаслужэнняў.**

Праяўленая прафсаюзамі прынцыповасць у пытанні мэтавага выкарыстання будынка, які некалі ім належаў, выглядае, мякка кажучы, дзіўна. Асабліва калі ўлічыць, што гэтая спартзала не выкарыстоўваецца ў спартовых мэтах вось ужо 17 гадоў і (відаць па ўсім) ніколі дзеля мэтаў спорту выкарыстоўвацца ўжо не будзе. Ва ўсякім разе, ні самі прафсаюзы, ні Федэрацыя вольнай барацьбы (якая купляла ў прафсаюзаў спартзалу, разлічваючы адрамантаваць яе за абяцаныя, але не атрыманыя банкаўскія крэдыты) ні нейкая іншая арганізацыя не праяўляюць да гэтага будынка «спартыўнага» інтарэсу.

Каму ж выгадная сітуацыя, у выніку якой будынак у цэнтры горада рызыкуе ператварыцца ў руіны?

### Сінагога

Рашэнне пра набыццё Новаапостальскай царквой будынка пад храм па вуліцы Сацыялістычнай,35 было няўдалым з самага пачатку. Справа ў тым, што будынак не заўсёды быў спартовым аб'ектам. Яшчэ да другой сусветнай вайны ў будынку месцілася харальная сінагога. І хоць фармальна гэтыя абставіны не былі перашкодай пры заключэнні здзелкі, аднак паведамленне пра яе выклікала рашучыя пратэсты яўрэйскай дыяспары не толькі ў Гродне, але і па ўсёй Беларусі, а таксама за мяжою (гл. **ПАГОНЮ N19 ад 1 чэрвеня 2000 года**). Яўрэі ўспрынялі тое, што ў былой сінагозе размесціцца хрысціянскі храм, як знявагу сваіх рэлігійных пачуццяў.

- У нас гэта выклікае пякучы боль, бо гістарычна так склалася, што хрысціяне прыкладалі шмат намаганняў для знішчэння нашага народа, - тлумачыў год таму аўтару гэтых радкоў пазіцыю яўрэяў старшыня гарадзенскага таварыства яўрэйскай культуры Рыгор Хасід. Паводле яго слоў, абставіны, якія павялічваюць крыўду, стала і тое, што «сінагога, набытая Новаапостальскай царквою, якая фінансуецца з Германіі - краіны, што ў XX стагоддзі здзейсніла самы вялікі генацыд яўрэяў ва ўсёй гісторыі чалавецтва».

Новыя апосталы сапраўды атрымліваюць дапамогу з Нямеччыны. Гарадзенская абшчына, напрыклад, належыць да акругі зямлі Ніжняя Саксонія, адкуль і паступілі сродкі для набыцця будынка Новаапостальскага храма ў Гродне. Трэба адзначыць, што нямецкія новыя апосталы, як толькі даведаліся пра планы набыцця былой сінагогі, высунулі гарадзенскім братам умову аб атрыманні дазволу на здзелку ад мясцовага рабіна.

Аднак у Гродне рабіна не было. Затое быў (цяпер нябожчык) Юрый Баярскі, наглядчык адзінай сінагогі, якая належала гарадзенскім яўрэям. Менавіта да яго па дазвол звярнуўся супрацоўнік рыэлтарскай фірмы «2К і К» Мікалай Сарока, які здзяйсняў пасярэдніцкія паслугі па заключэнню здзелкі. Паводле слоў Сарокі, згода на здзелку ад Баярскага была атрымана. Далей, з захаваннем усіх неабходных фармальнасцяў (акрамя гэтага было атрымана адпаведнае ўзгадненне ў гарвыканкаме і Камітэце па справах рэлігій аблвыканкама), здзелка была заключана. Новыя апосталы сталі ўласнікамі будынка, аднак выкарыстаць яго так і не здолелі. Справа ў тым, што гарвыканкам, які спачатку блаславіў здзелку, на працягу двух гадоў адмаўляўся даць пратэстантам дазвол на правядзенне ў былой сінагозе рамонтных работ.



Сінагога разладу

### Інтарэсы чынавенства

У рэчаіснасці гарвыканкам быў зацікаўлены ў тым, каб будынак спартклуба «Спартак», які атрымаў заможнага гаспадара, быў адрамантаваны і больш не палохаў сваім непрывабным выглядам гасцей і жыхароў горада. Аднак інтарэсы гарвыканкама не супалі з інтарэсамі тагачаснага старшыні аблвыканкама Аляксандра Дубко.

Аляксандр Іосіфавіч, фармальна па просьбе яўрэйскай абшчыны, выдаў распараджэнне знайсці прававыя падставы для таго, каб скасаваць здзелку куплі-продажу былой сінагогі. Неафіцыйна гаварылася пра тое, што старшыню гарвыканкама абурыў кошт, за які новыя апосталы набылі будынак.

Справа ў тым, што бедная гарадзенская Федэрацыя вольнай барацьбы прадала спартзалу пратэстантам фактычна за даўгі перад прафсаюзамі. Прафсаюзы ў свой час пазбыліся гэтага будынка, які прастойваў з 1985 года, ацаніўшы яго па балансаваму кошту. Такім чынам неадбыўшыся Новаапостальскі храм у цэнтры горада каштаваў спачатку барцам-вольнікам, а пасля і пратэстантам прыблізна 2,5 тысячы даляраў. Безумоўна, за такія грошы Аляксандр Дубко мог бы знайсці і больш годнага пакупніка.

Тым часам праверкі законнасці здзелкі не прыносілі чакаемага выніку. Гарвыканкам звяртаўся з просьбамі дазволіць новым апосталам выкарыстоўваць будынак. Аблвыканкам працягваў маўчаць. Змена кіраўніка вобласці не паўплывала на сітуацыю. Як лічаць некаторыя крыніцы, гэта тлумачыцца тым, што планы на будынак меў ужо начальнік Упраўлення спорту і турызму аблвыканкама Віктар Шніпко.

У пэўных колах упэўненыя, што менавіта яму ўдалося прыдумаць выхад з гэтай сітуацыі і дамовіцца з абласным аб'яднаннем прафсаюзаў, каб тыя выступілі са спазыскам аб прызнанні здзелкі па былой сінагозе. На жаль, ПАГОНІ не ўдалося звязацца з Віктарам Шніпко і праверыць дадзеныя звесткі. Бо кіраўнік Упраўлення спорту і турызму аблвыканкама знаходзіцца зараз на бальнічным. Пакуль адмовілася каментаваць сітуацыю і старшыня абласнога аб'яднання прафсаюзаў Ірэна Шылконь.

Добразычліўцы сцвярджаюць тым часам, што Віктар Уладзіміравіч здолеў нават аказаць ціск на суд з мэтай атрымання неабходнага яму выніку. Аднак падставаў верыць гэтаму пакуль няма.

З іншага боку ёсць падставы меркаваць, што адабраны ў новых апосталаў будынак будзе ў хуткім часе арыштаваны і пасля гэтага выстаўлены на продаж на вядомаму кошту з мэтай кампенсацыі пратэстантам сродкаў ад скасаванай здзелкі.

Справа ў тым, што ў гарадзенскай Федэрацыі вольнай барацьбы, якая фактычна зноў стала ўладальніцай будынка, грошай па-ранейшаму няма. Вось тут і можа ўзнікнуць фігура Віктара Шніпко, які хутчэй за ўсё здольны прапанаваць нерухомую маёмасць больш удзячнаму, чым пратэстанты пакупніку. І больш таго, як спартовы кіраўнік вобласці, ён здолее вырашыць праблемы з мэтавым выкарыстаннем будынка. А гэта, як здолелі пераканацца, зноў-такі неадбыўшыеся ўладальнікі былой сінагогі, дарагога каштуе.

Як ні глянь, схема, выглядае элегантна. Калі б не адно але. Новыя апосталы не могуць разлічваць на кампенсацыю сродкаў за паслугі па набыцці нарухомай маёмасці, якія ім аказала фірма «2К і К». У гэтым пераканаы Мікалай Сарока, які нягледзячы на рашэнне суда аб прызнанні здзелкі несапраўднай, упэўнены, што юрыдычных падставаў для прыняцця такога рашэння не было.

- Любая праверка дакажа, што здзелка была здзейснена абсалютна законна, - заявіў рыэлтар.

На яго меркаванне Новаапостальская царква абскардзіць рашэнне абласнога суда ў Вышэйшы гаспадарчы суд. Аднак прэзідэнт Новаапостальскай царквы ў Беларусі Людміла Чыжмакова ў размове з карэспандэнтам ПАГОНІ адмовілася аб падобных планаў:

- Мы законапаслухмяныя грамадзяне і падпарадкуемся рашэнню суда.

- Гэтым будзе займацца іх апостал з Германіі, - настойвае Мікалай Сарока, - да таго ж хутчэй за ўсё далучыцца нямецкая амбасада. Будзе вялікі скандал!

**Анджэй Пісальнік**

**P.S.:У наступным нумары ПАГОНІ мы паспрабуем паказаць пункт гледжання на закранутую ў артыкуле праблему начальніка Упраўлення спорту і турызму аблвыканкама Віктара Шніпко і старшыні абласнога аб'яднання прафсаюзаў Ірэны Шылконь.**

ПРАБЛЕМА

# ...Толькі самалётам можна даляцець!

**У Шчучыне знятыя некалькі рэйсаў гарадскога транспарта. Бліжэйшым часам кіраўніцтва шчучынскага аўтапарка плануе скараціць яшчэ палову дзеючых рэйсаў.**

Абураныя мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што рэйсы знялі з-за недахопу саляркі, якая пайшла на ўборачную кампанію. Дырэктар аўтапарка Уладзімір Матыс гэтага не адмаўляе, аднак галоўнай прычынай скарачэння аўтобусных рэйсаў называе іншае:

- Увечары аўтобусы ходзяць дарэмна, пасажыраў няма. У той жа час мы возім фактычна адных ільготнікаў: дзяцей і пенсіянераў. Скуль жа ў аўтапарка будуць грошы на ўтрыманне транспарта? Мы і так, як у Нью-Ёрку працуем - аўтобус за аўтобусам ідзе.

Увесь шчучынскі гарадскі транспарт складаецца з трох рэйсавых аўтобусаў. Найчасцей курсуе аўтобус N1 «Рэзы - Тапілішкі» - па аднаму рэйсу ў гадзіну. Нью-Ёрк у гэтым сэнсе Шчучын наўрад ці нагадвае. І, бадай, для 20 тысячнага горада Шчучына такі расклад руху відавочна не дастатковы. Тым больш, што аўтобусы заязджаюць ў прыгарадныя вёскі, значная частка жыхароў якіх працуе ў горадзе. А зараз яшчэ знялі тры рэйсы аўтобуса N2 «Аўтавакзал-вуліца Леніна» (з аўтавакзала яны адпраўляліся ў 8.31, 16.26, 19.28) і два вечаровыя - аўтобуса N1 (на 19.54, і на 20.46). Пасля 19-ці гадзін у Шчучыне дабрацца куды-небудзь можна толькі пешшу.

У аддзеле транспарта і сферы паслуг аблвыканкама наогул не чулі, што ў Шчучыне скарачаюць гарадскі транспарт.

- Аўтобусных рэйсаў у Шчучыне не здымалі і здымаць не збіраюцца. Праблемы з транспартным абслугоўваннем насельніцтва ў нас, канечне, ёсць. Але новы міністр транспарта Міхаіл Васільевіч Баравой ужо звярнуўся ва ўрад з гэтым пытаннем, і яно будзе вырашацца, - упэўнена гаворыць галоўны спецыяліст па пытаннях транспарта аблвыканкама Віктар Пяткевіч.

А шчучынцам пакуль давodзіцца спадзявацца на чаргавага «новага» міністра. І з адыходам апошняга аўтобуса стомленыя, яны пешкі цягнуцца з працы дахаты.

**Марыя Тапілеўская**

ЛІСТЫ Ў ПАГОНЮ

# «Жыву са страхам»

Мяне вельмі непакоіць пытанне пра жыллё. Гадавала трое дзяцей адна. Працавала на заводзе 14 гадоў, жыла ў інтэрнаце і раптам у 2001 годзе мяне скарацілі. Дзеці растуць. Старэйшая дачка ужо замужам, малодшая збіраецца. У інтэрнаце я жыву ў блоку (два пакоі і няма суседзяў). Цяпер, калі я засталася з 11-гадовым сынам, ці могуць у мяне адабраць пакой і засяліць нас з сынам у аднапакаёўку? Мне 44 гады і ў ужо не спадзяюся атрымаць кватэру - няма такіх грошай. Так крыўдна, што я, маці, якая выгадавала трох здаровых дзяцей, сёння ў сваёй краіне вымушана жыць у інтэрнаце да свону дзён сваіх. Жыць са страхам, што і гэта страчу, што і гэта ў мяне могуць адабраць.

**Рэгіна Валяр'янаўна Дзмітрэвіч, г.Шчучын**

КРЫМІНАЛ

# Пакінула ключ...

**Звычка пакідаць ключ пад дываном ля ўваходных дзвярэй адгукнулася для даяркі са Слоніма стратаю 30 тысяч рублёў.**

Нядбайнасцю кабеты скарыстаўся 16-гадовы падлетак, які знайшоў ключ і спакойна зайшоў у бытоўку. Аднак патраціць грошы малалетні злодзей не паспеў. Затое досвед крымінальнай адказнасці ўжо набыў.

# Каноплі ў «Stop Line»

**У межах агульнарэспубліканскай аперацыі па барацьбе з наркотыкамі ў вядомай гарадзенскай дыскатэцы «Stop Line» быў затрыманы навучэнец СПТВ-141.**

Супрацоўнікі праваахоўных органаў знайшлі ў яго пакет з каноплямі. Мэта, з якой СПТВэшнік прынёс на дыскатэку зелле, яшчэ высвятляецца. Таму крымінальную справу пакуль не распачынаюць.

# Адгалосак вайны ў Каробчыцах

**Снарад часоў Вялікай Айчыннай вайны знайшлі жыхары вёскі Каробчыцы на дне мясцовай сажалкі пасля яе асушэння.**

Смяротная зброя, якая праляжала больш за 50 гадоў у вадзе, ужо не ўяўляла небяспекі.

# Ад шасці да пятнаццаці за гоп-стоп

**Кашалёк з дзесяццю тысячамі рублёў выхапіў у жыхаркі дома N3, што па праспекце Янкі Купалы ў Гродне, адночы судзімы жыхар вёскі Клімчаны Гарадзенскага раёна.**

Разбой быў учынены ў пад'ездзе дома, дзе жыве ахвяра. Затрыманаму рэцыдывісту пагражае ад шасці да пятнаццаці гадоў турмы.

**ПАТ**

СУМЕЖЖА

# Што беларусу не прэстыжна, тое немцу - ганарова

**Хольгер Кнауф - 28-гадовы карэнны немец, студэнт універсітэта ў заходнегерманскім горадзе Белефельдзе. Традыцыйна, як і кожны прадстаўнік ягонай нацыі захапляецца сасіскамі ды півам. Што, здавалася б, можа даць падставы лічыць яго незвычайным, у пэўным сэнсе, дзіўным немцам? У прынцыпе, нічога. Акрамя таго, што Хольгер зайздросна гаворыць па-беларуску, а, літаральна, два тыдні таму, германскае выдавецтва «Райзэ ноу-хау» выпусціла з друку трохтысячным накладам першы ў гісторыі Нямеччыны нямецка-беларускі размоўнік для шырокага карыстання, падрыхтаваны менавіта Хольгерам. І, навошта маладому немцу ў Германіі беларуская мова? З гэтага і пачалася ў рэдакцыі ПАГОНІ мая размова з Хольгерам Кнауфам:**



Хольгер Кнауф рэпрэзентуе свой нямецка-беларускі размоўнік

- Гэта надзвычай карысны размоўнік. На Беларусь едуць шмат немцаў. У большасці сваёй гэта людзі, якія вязуць сюды гуманітарную дапамогу. І яны не толькі прывозяць груз і адразу назад. За гэтыя 10 год, якія дзейнічае гуманітарная місія, завязалася ўжо шмат асабістых кантактаў немцаў з беларусамі. І, нават, нягледзячы на тое, што ў Беларусі сапраўды няшмат людзей гавораць па-беларуску, ведаць беларускую мову для немца карысна. З другога боку, неабходна ведаць беларускую мову хаця б дзеля таго, каб разабрацца ў горадзе, дзе, нягледзячы на русіфікацыю яшчэ засталося шмат надпісаў і шыльдаў па-беларуску.

***- Атрымоўваецца, нават у Нямеччыне можна зарабіць капітал, выдаючы кнігу па-беларуску?***

- Зарабіць грошы - гэта, так бы мовіць, іншае пытанне. За кожны прададзены паасобнік размоўніка я атрымліваю 50 пфенінгаў (кошт размоўніка ў нямецкіх крамах - 15 дойчмарак. - П.М.). Тут галоўнае, што кожны чалавек, які едзе на Беларусь, можа дазволіць сабе ўзяць у дарогу кнігу і вывучыць элементарныя беларускія выказванні, якія, спадзяюся, дапамогуць яму ў Беларусі.

***- Твае б словы ды Богу ў вушы... У Беларусі некалькі год таму вучыўся студэнт з Японіі, які вывучаў беларускую мову. Дык вось на адной з дэманстрацыяў ён быў жорстка збіты міліцыяй. Ты не думаеш, што немцаў, якія прыедуць сюды і будуць гаварыць па-беларуску, можа чакаць тое самае?***

- Пакуль што я гэтага не баюся. Хаця ведаю, што людзей на дэманстрацыях тут сапраўды збіваюць.

***- А цябе не здзівіла, што, напрыклад, у Гродне ўжо практычна не засталося ніводнай беларускамоўнай школы?***

- Так!? Я пра гэта, шчыра скажу, не ведаў. Я чуў, што за апошнія пяць-сем гадоў колькасць беларускамоўных школаў у краіне значна знізілася. Шкада, і, нават, не столькі шкада, колькі крыўдна.

***- Як бы ты акрэсліў месца беларускай мовы сярод іншых моваў у свеце? Гэта не павінен быць адказ навукоўца, а словы чалавека, які ў свой час вырашыў вывучыць гэтую мову.***

- Я паважаю ўсе маленькія мовы і ўсе маленькія дыялекты. Упэўнены, што ўсе яны павінны мець права на існаванне. Беларускія словы шалёна прыгожа гучаць. Больш таго, гэта мова, якая мае багатую літаратуру. З іншага боку, кожны год у свеце якая-небудзь мова знікае. Беларуская мова, я магу зрабіць такую выснову, у Беларусі не мае прэстыжу. Людзі прыязджаюць з вёскі ў горад і імкнуцца хутчэй пачаць гаварыць па-руску. Я неверагодна ганаруся, што, жывучы ў Нямеччыне, магу нешта зрабіць дзеля захавання беларускай мовы. Хаця б трошкі.

***- У навуковых асяродках у Германіі існуе ўпэўненасць, што беларускай мове пагражае знікненне? Я правільна зразумеў?***

- Такая перспектыва ёсць. Пахадзі па горадзе, колькі разоў ты пачуеш беларускія словы? З іншага боку, мне вельмі не падабаецца, як тут пагарджаюць вясковай мовай ці трасянкай. Чаму трэба размаўляць толькі на нарматыўнай, літаратурнай беларускай мове? Трэба паважаць мову вясковых людзей. Гэта жывая мова, гэта мова, на якой гавораць.

***- Ты, напэўна, ведаеш, што Васіль Быкаў знаходзіцца ў Германіі ў вымушанай эміграцыі?***

- Так, сёлета я, нават, быў на чытанні ў Быкава ў Гановеры. Паразмаўляць, праўда, не давялося. На гэтых чытаннях быў нейкі рэдактар рускамоўнай газеты «Руская Германія». Відаць, нейкі выхадзец з былога СССР. Ён досыць груба наязджаў на Быкава. Маўляў, як так можа быць, што Вы сёння выступаеце за дэмакратыю, а за савецкім часам атрымоўвалі вышэйшыя дзяржаўныя прэміі? Быкаў проста адмовіўся адказваць на гэткае пытанне.

***- Ці маеш ты ў Нямеччыне асяродак, дзе можаш паразмаўляць па-беларуску?***

- Не, на жаль, не. У маўленні я практыкуюся, чытаючы кнігі і слухаючы касеты. Аднак, гавару я пра гэтыя кнігі і касеты са сваімі сябрамі па-нямецку альбо па-руску.

***- А адкуль такая прыхільнасць да беларускай мовы?***

- У 1995-1996 годзе я навучаўся ў Менску, і вывучаў рускую мову. Некалькі маіх беларускіх сяброў гаварылі па-беларуску. Да таго ж, самыя цікавыя газеты ў Беларусі выходзяць толькі на беларускай мове. Пасля, як вярнуўся ў Нямеччыну, я пачаў шукаць хаця б нейкія матэрыялы па вывучэнню беларускай мовы, і зразумеў, што ў нас нічога на гэты конт няма. Потым сустрэў цікавае выдавецтва «Райзэ ноу-хау», якое выдае слоўнікі шматлікіх моваў, у тым ліку і моваў былой савецкай прасторы: армянскай, эстонскай, грузінскай, латышскай, украінскай, узбекскай і гэтак далей. А беларускага размоўніка не было. І я прапанаваў ім свае паслугі па выданні нямецка-беларускага размоўніка.

***- Гэта значыць, што ты стаў першым у гісторыі Нямеччыны аўтарам беларускай кнігі?***

- Так. Безумоўна, не выключана, што калісьці ў якім-небудзь нямецкім універсітэце і маглі выдаваць падобныя матэрыялы. Але для шырокага карыстання - упершыню. У мяне, дарэчы, у планах - папрацаваць над стварэннем падручніка для дапамогі тым, хто мае жаданне навучыцца чытаць па-беларуску. Многія немцы хочуць чытаць беларускамоўную прэсу. Тым больш Internet дае такую магчымасць.

**Павал Мажэйка**

# Амерыканскія навукоўцы знайшлі ген даўгалецця

**Навукоўцы знайшлі спосаб прадаўжэння жыцця чалавека. Гэтае сенсацыйнае адкрыццё зрабілі навукоўцы інстытута Здароўя ў штаце Канэкцікут. Яны правялі лабараторныя эксперыменты над мухамі-дразафіламі, у выніку якіх працягласць жыцця гэтых насякомых была павялічаная амаль удвая. Некаторыя мухі падчас даследавання жылі да 110 дзён, калі ў сярэднім яны жывуць каля 40 дзён. Гэты вынік быў дасягнуты шляхам змянення адзінай храмасомы, як паведамляе Associated Press. Ген прадаўжэння жыцця амерыканскія навукоўцы назвалі «Я ўсё ж не мёртвы» («I'm not dead yet») ці скарочана Індзі (Indy).**

Той самы ген прадаўжэння жыцця дзейнічае і ў людзей, - лічыць доктар Сцівен Хелфанд, адзін з галоўных аўтараў гэтага даследавання. «Зараз дастаткова стварыць лекавы прэпарат, які дапаможа дасягнуць аналагічнага выніку. Магчыма, людзі змогуць жыць да 150 гадоў», - адказаў навуковец. Пры гэтым Хелфанд адзначыў, што мутацыя гена, хутчэй за ўсё, абмяжоўвае паглынанне калорыяў на клеткавым узроўні ці трымае клеткі на дыеце. «Мы лічым, што вынікам нашых даследаванняў можа стаць вытворчасць таблетак, якія адначасова будуць працягваць жыццё і рэгуляваць вагу чалавека», - паведаміў ён.

«Нашыя спецыялісты знайшлі ключ для далейшых даследаванняў. У той жа час эксперыменты паказалі, што працягласць жыцця можна прадаўжаць, захоўваючы пры гэтым ўсю паўнавартаснасць існавання чалавека», - заявіў навуковец у інтэрв'ю часопісу Science.

**НТВ.ru**

ГІСТОРЫЯ

# Канстанцін Езавітаў: надыйшоў час вяртання ў гісторыю

**Канстанцін Езавітаў - адна з буйных і таямнічых постацей айчыннай гісторыі першай паловы XX стагоддзя. На жаль, гэтае імя сучаснаму адукаванаму чалавеку (у некаторых выпадках, нават з дыпломам гісторыка) ні пра што не гаворыць. Наогул, яно толькі цяпер вяртаецца да нас пасля доўгіх гадоў забыцця, ганьбавання і нават шальмавання ва ўмовах савецкага таталітарнага рэжыму.**

Людзі старэйшага пакалення, што перажылі вайну, маглі нешта чуць пра яго як беларускага буржуазнага нацыяналіста, хаўрусніка гітлераўцаў. Ён згадваўся ў пасляваенных публікацыях беларускіх гісторыкаў і журналістаў у адной абойме з прэзідэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады Р.Астроўскім, а таксама Ф.Кушалем, І.Ермачэнкам, У.Казлоўскім, В.Іваноўскім, Ф.Акінчыцам, А.Адамовічам, М.Шкялёнкам, М.Ганько ды іншымі актыўнымі памагатымі нямецка-фашысцкіх акупантаў і саўдзельнікамі іх злачынстваў на беларускай зямлі ў 1941-1944 гадах. З жыццём і дзейнасцю Канстанціна Езавітава раней нават вузкае кола навукоўцаў магло пазнаёміцца толькі па дакументах спецфондаў архіваў. Цяпер сітуацыя змянілася. Аднак гэта прывяло да праблемы ацэнкі дзейнасці гэтага «чалавека-легенды».

Канстанцін Езавітаў увайшоў у гісторыю як актыўны дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, першы беларускі генерал, вайсковы міністр БНР, арганізатар беларускага супольніцтва ў даваеннай Латвіі, адметны гісторык, педагог, публіцыст, паэт і перакладчык.

Канстанцін Езавітаў нарадзіўся 5 лістапада 1893 года ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс у Латвіі) у сям'і кадравага афіцэра. У 1916 годзе скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут, а потым 4-месячны паскораны курс Паўлаўскага ваеннага вучылішча ў Петраградзе. Звязаў свой лёс з беларускім нацыянальным рухам яшчэ ў 1913 годзе, калі стаў удзельнікам Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Пасля заканчэння вучылішча атрымаў званне малодшага афіцэра, добраахвотна пайшоў на Паўночны фронт, дзе імкнуўся згуртаваць беларусаў-афіцэраў і салдатаў у адзіную нацыянальную сям'ю. У 1917 годзе Канстанцін Езавітаў удзельнічаў у І Усебеларускім кангрэсе і з'ездзе ваеннаслужачых Паўночнага фронту і быў уключаны ў склад Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады.

Падчас адыходу бальшавікоў з Менска ў лютым 1918 года ён прызначаецца вайсковым камендантам Менска і начальнікам беларускага гарнізона. На гэтай пасадзе ім вялася вялікая праца па фармаванню беларускіх вайсковых часцей. Па сведчанню дзеячаў таго часу, Канстанцін Езавітаў вызначаўся выдатнымі арганізацыйнымі здольнасцямі, адданасцю беларускай справе. Яго намаганнямі былі арганізаваныя ў Менску першыя беларускія настаўніцкія курсы. Адначасова Канстанцін Езавітаў узначальваў культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына», прымаў удзел у арганізацыі творчай працы Беларускага тэатра.

У сакавіку 1918 года ён удзельнічаў у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі і быў абраны ў склад яе Рады ў якасці міністра ваенных справаў. Беларускі ўрад адзначыў выдатныя здольнасці ды заслугі Канстанціна Езавітава і надаў яму чын палкоўніка.

У снежні 1918 года, калі немцы адступілі і перадалі Менск бальшавікам, Канстанцін Езавітаў пераехаў у Вільню і супрацоўнічаў з Віленскай Беларускай Радай. Праз два месяцы ён быў прызначаны камандзірам 1-га Гарадзенскага беларускага пяхотнага палка.

З канца 1919-га і да пачатку 1921 года Канстанцін Езавітаў узначальваў Беларускую ваенна-дыпламатычную місію ў Эстоніі ды Латвіі. Ён арганізаваў у Рызе беларускае прэс-бюро, культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына» і выступіў ініцыятарам выдання беларускамоўнага часопіса «На чужыне».

Пасля падпісання Рыжскага міру беларуская місія ў Рызе была закрыта, але Канстанцін Езавітаў яшчэ на працягу звыш 20-ці гадоў працаваў у якасці старшыні Беларускага нацыянальнага аб'яднання ў Латвіі, прыкладаючы ўсе свае арганізатарскія здольнасці да нацыянальна-культурнага развіцця і згуртавання 75-тысячнай беларускай сялянскай супольнасці Латвіі.

У мэтах распаўсюджвання ідэяў беларускага адраджэння ў 1925-1934 гадах ён выдаваў газету «Голас Беларуса» і часопіс «Беларуская школа ў Латвіі». Яму належаць такія манаграфіі па беларусазнаўству, як «Беларусы і палякі» (1919), «Беларусы ў Латвіі» (1927), «Беларусы ў Літве» (1982).

У 1925 годзе Канстанцін Езавітаў праходзіць па судовай справе так званага «Беларускага працэсу». Адседзеўшы 11 месяцаў у дзвінскай турме, быў апраўданы і вызвалены. За ўдзел ў беларускім нацыянальна-культурным руху ён яшчэ неаднаразова падвяргаўся арышту і суду (1930, 1933, 1935 гады).

З пачатку Вялікай Айчыннай вайны і да чэрвеня 1944 года ён жыў у Рызе, займаўся аднаўленнем беларускіх школаў, выдаваў часопіс «Новы шлях». Пры наступленні часцей Чырвонай Арміі з немцамі эвакуяваўся ў Берлін.

27 чэрвеня 1944 года Канстанцін Езавітаў прыняў удзел у рабоце II Усебеларускага кангрэса ў Менску і быў абраны вайсковым міністрам ва ўрад БНР. Яму было прысвоена званне генерал-маёра і даручана займацца мабілізацыяй беларусаў у Беларускую Краёвую Абарону.

Канстанцін Езавітаў быў арыштаваны 26 красавіка 1945 года ў Загане (Германія) контрразведкай «Смерш», потым этапіраваны ў Маскву, а адтуль у кастрычніку-лістападзе 1945 года пераведзены ў Менск. Паводле афіцыйнай версіі, ён памёр ад сухотаў падчас следства 23 траўня 1946 года. Ёсць звесткі, што пасля жорсткіх катаванняў ён быў расстраляны ў Менску або павешаны ў Віцебску.

Тое, што мы ведаем сёння пра Канстанціна Езавітава, стварыла ў нашым уяўленні вобраз яго як палымянага беларускага нацыянал-патрыёта, які ўсё жыццё сваё прысвяціў служэнню вялікай і высакароднай справе - нацыянальнага самавызначэння беларускага народа, стварэння дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Канстанцін Езавітаў - асоба таленавітая, неардынарная, шматбаковая, складаная і супярэчлівая. У яго біяграфіі яшчэ нямала «белых плямаў», што патрабуе пошукаў новых дакументаў і ўзважлівых, аргументаваных высноваў.

**С.М.Раўнейка**

ХАКЕЙ

# Правал гарадзенскіх хакеістаў

**Гарадзенскі «Нёман» на шчыце вярнуўся з венгерскага горада Секешфехерва, дзе праходзілі чвэрцьфінальныя гульні Кантынентальнага Кубка ў групе «Н». Адзіную пуцёўку ў паўфінал, як пераможца квартэту, атрымаў менскі «Керамін».**

Хакеісты «Нёмана» практычна ў першай сустрэчы пазбавіліся шансаў выхаду ў наступны этап спаборніцтваў, калі прайгралі гаспадарам - 2:3. Павёўшы ў ліку з перавагай у дзве шайбы (галы на рахунку Сідарава і Пячонкіна), нёманцы, тым не менш, не здолелі захаваць пераможны лік. Венгры не толькі змаглі аднавіць раўнавагу, але і за 18 секундаў да заканчэння трэцяга перыяду вырвалі вікторыю.

Больш адчувальны ўдар нашыя хакеісты атрымалі на наступны дзень ад кіеўскага «Сокала» - 0:5. У апошняй сустрэчы падначаленыя Анатоля Варывончыка саступілі «Кераміну» - 1:2 (Галавіноў).

ВАЛЕЙБОЛ

# Турнір у гонар Аляксандра Сапегі

**Валейбалісты гарадзенскай СДзЮШАР выйшлі пераможцамі на пятым юнацкім валейбольным турніры памяці знакамітага гарадзенскага спартоўца Аляксандра Сапегі, які прайшоў з 17-га па 21-е кастрычніка ў Гродне.**

Падначаленыя Мікалая Загідуліна скончылі 5-дзённы турнір без адзінага промаху. Пасля лёгкай перамогі ў першыя два дні над аўтсайдэрамі зборных Латвіі ды Менска (па 3:0) гарадзенцаў чакала выпрашальная гульня з расіянамі. Пяцісэтавая спрэчка скончылася вікторыяй нашых землякоў, пасля чаго было відавочна, што сваё першынство ў Кубку яны не ўпусцяць. Так яно і здарылася. У дзвюх апошніх сустрэчах гарадзенцы ўзялі верх над зборнай Украіны - 3:0 і Польшчы - 3:1.

Другое месца на турніры занялі расіяне, трэцяе - украінцы, Латвія, Менск і зборная Польшчы, якая выступала па-за конкурсам.

# З «Надзеяй» безнадзейна

**З розным поспехам правялі чарговыя гульні Чэмпіянату Беларусі па валейболе гарадзенскія каманды «Камунальнік» і «Нёман».**

Мужчыны з «Камунальніка» на выездзе дамагліся дзвюх упэўненых перамог над салігорскім «Шахтаспецбудам» - 3:1 і 3:0. Гарадзенкі нічога не здолелі супрацьпаставіць гомельскай «Надзеі» - 0:3, 0:3.

Пасля шасці тураў са 100-працэнтным паказчыкам у графе перамог «Камунальнік» разам з гомельскім «ГВК» і берасцейскім «Заходнім Бугам» падзяляюць першыя тры месцы. Гарадзенкі ж пасля чатырох сустрэчаў разам з менскай «ГЭНІ» замыкаюць васьмёрку мацнейшых.

КРОС

# Кросавыя забегі

**19 кастрычніка ў лясным масіве Пышкі прайшлі спаборніцтвы па кросу сярод навучэнцаў сярэдне-спецыяльных і вышэйшых установаў нашага горада.**

Сярод вышэйшых установаў залатыя ўзнагароды заваявалі спартоўцы Вучэльні алімпійскага рэзерву. Другое і трэцяе месцы падзялілі факультэт і кафедра фізічнага выхавання Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы.

Нагадаў пра сябе і тэхнічны каледж Гарадзенскага універсітэта, які быў першым сярод сярэдне-спецыяльных установаў. Другою тут стала каманда політэхнічнага каледжа, трэцім - медычная вучэльня.

Сярод прафесійна-тэхнічных установаў першае месца сярод юнакоў занялі навучэнцы 127-й вучэльні, другое - прадстаўнікі электратэхнічнага каледжа імя Івана Шчаснага, трэцяе - каледж прыборабудавання.

Сярод дзяўчатаў першынстваvалі каледж лёгкай прамысловасці, які апярэдзіў педагагічны каледж, і 74-я вучэльня.

МЯСЦОВЫ МЯЧ

# «Хімік» працягвае традыцыі

**Футбалісты гарадзенскага «Хіміка» працягваюць добрыя традыцыі аднайменнай каманды, закладзеныя яшчэ ў 60-х гадах мінулага стагоддзя.**

20 кастрычніка завяршыўся паўгадавы марафон чэмпіянату Гарадзенскай вобласці па футболе, у якім «хімікі» святкавалі перамогу. Футбалісты шчучынскага «Алімпа» сярод 11-ці калектываў сталі другімі, «Ваўкавыск» - трэцім.

# Давыд зрабіў сваю справу, Давыд можа зыходзіць

**Асечкай футбалістаў «Нёмана» ў гульні са «Славіяй» з задавальненнем скарысталіся дынамаўцы. Менчукі перамаглі ў Віцебску «Лакаматыў-96» (3:1), што дазволіла ім ліквідаваць двухачковы адрыў ад гарадзенцаў і, па лепшай розніцы забітых і прапушчаных галоў, узняцца на трэцяе месца.**

Блізкасць да заканчэння чэмпіянату і акрэсленне першых узнагародаў прымушае дзейнічаць на мяжы сваіх магчымасцяў. Аднак не ў кожнай гульні гарадзенцы здольныя наблізіцца да сваёй верхняй прыступкі, што наглядна паказала дуэль «Нёмана» са «Славіяй».



Сяргей Давыдаў імкнецца да брамы суперніка

Гульню з экс-чэмпіёнамі гарадзенцы пачалі сонна і млява. Практычна першы востры момант абярнуўся голам у нашу браму. Цэнтральны паўабаронца мазырцаў Чалей бесперашкодна прайшоў да штрафной гаспадароў і па-майстэрску адпасаваў забытаму гарадзенскімі абаронцамі Фёдару Лукашэнку. Да гонару нашых футбалістаў, яны не занялалі духам і праз некалькі хвілінаў аднавілі парытэт у сустрэчы.

З левага кута штрафной мазырцаў Віталь Тарашчык навесіў на далёкую штангу брамы Сініцына, дзе, вызваліўшыся ад апекі, мяч сустрэўся з нагою гарадзенскага галеадора Сяргея Давыдава, які з більярднай дакладнасцю загнаў яго дакладна ў лузу. Забіты гол для Сяргея быў ужо 22-гі ў гэтым сезоне. Гэта больш, чым у былога рэкардсмена Гарадзеншчыны галоўнага трэнера «Нёмана» Сяргея Саладоўнікава. Цёзка Давыдава яшчэ ў часы выступлення «Хіміка» ў 2-й Лізе Чэмпіянату СССР вызначыўся 21-м голам на працягу аднаго сезону.

На жаль, толькі тры гульні засталося згуляць нашаму бамбардзіру Сяргею Давыдаву ў складзе «Нёмана». Расейскі легіянер пасля сустрэчы з мазырцамі пацвердзіў інфармацыю наконт падпісання кантрактаў аб працаўладкаванні Сяргея на наступны год у тальяцінскай «Ладзе».

Хуткі адказ гарадзенцаў прымусіў гасцей больш пільна сканцэнтраваць увагу на абароне сваёй брамы. За нейтралізацыю галоўнага козыра «Нёмана» - Давыдава - стаў адказваць Данілюк. Аднак і звышшчыльная апека не перашкодзіла гарадзенцу знаходзіць моманты для ўдараў. Ім, на жаль, у гэты дзень не хапала дакладнасці, як у момандце, калі Кірэня вывеў Давыдава сам-насам з брамнікам гасцей. Апошні быў на ўзроўні. Не змог выкарыстаць свой адзіны галявы шанс Дзмітрый Кавалёнак, які не здолеў як след прыкласціся да мяча.

Прабел у нападзенні далёкімі гарматамі спрабаваў дапоўніць капітан «Нёмана» Сяргей Мірошкін. Хаця ўдары абаронцы ляцелі ў «рамку», але вялікай пагрозы мазырцам не неслі.

У адрозненні ад папярэдзелкавай гульні, трыма днямі раней «Нёман» атрымаў пераканаўчую перамогу над «БАТЭ». Гэтая сустрэча была бенефісам Сяргея Давыдава, які зрабіў покер.

Да заканчэння чэмпіянату «Нёману» засталося правесці тры гульні - у Магілёве з «Дняпром-Трансмашам», у Гродне з «Маладзечна-2000» і ў Салігорску з «Шахцёрам». Асноўны канкурэнт гарадзенцаў у барацьбе за бронзавыя ўзнагароды менскае «Дынама» сустрэнецца з «Тарпеда-МАЗ» (у гасцях), «Белшынай» (г) і «БАТЭ» у Менску.

**Каментар да гульні «Нёман» - «Славія» галоўнага трэнера гарадзенцаў Сяргея Саладоўнікава:**

*- Якасны футбол наша каманда паказала толькі ў другой палове гульні. Вельмі слабую гульню прадэманстравалі крайнія паўабаронцы Крыкараў і Юйко... На мой погляд, вынік сустрэчы справядлівы.*

**Табліца Чэмпіянату Беларусі**

| | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Белшына | 23 | 17 | 4 | 2 | 38-11 | 55 |
| БАТЭ | 22 | 15 | 2 | 5 | 49-26 | 47 |
| Дынама Мн | 23 | 13 | 5 | 5 | 45-19 | 44 |
| **Нёман-Белкард** | **23** | **12** | **8** | **3** | **38-16** | **44** |
| Шахцёр | 23 | 11 | 6 | 6 | 35-21 | 39 |
| Гомель | 23 | 11 | 4 | 8 | 28-22 | 37 |
| Славія | 23 | 10 | 5 | 8 | 38-23 | 35 |
| Тарпеда-МАЗ | 22 | 9 | 6 | 7 | 26-24 | 33 |
| Днепр-Трансмаш | 23 | 8 | 7 | 8 | 27-31 | 31 |
| Дынама Бр | 23 | 8 | 3 | 12 | 25-35 | 27 |
| Маладзечна-2000 | 23 | 6 | 5 | 12 | 19-42 | 23 |
| Лакаматыў-96 | 23 | 4 | 6 | 13 | 17-44 | 18 |
| Нафтан | 23 | 2 | 2 | 19 | 13-47 | 8 |
| Ведрыч-97 | 23 | 2 | 1 | 20 | 14-51 | 7 |

ГАНДБОЛ

# Першыя крокі дзяўчатаў з «Гараднічанкі»

**У суботу распачаўся 10-ы чэмпіянат Беларусі па гандболе сярод жаночых камандаў, які гарадзенскія аматары ручнога мяча чакаюць з нецярплівасцю. У чэмпіянаце бярэ ўдзел прафесійны жаночы клуб «Гараднічанка» з Гродна.**

**Пра фінансавую падтрымку камандзе заявілі гарадзенскі «Мясакамбінат» і абласное Упраўленне па спорту і турызму.**

**На трэнерскім мосцiку кіруюць дзяўчатамі два добра вядомыя ў Беларусі трэнеры - Мікалай Тарашка і заслужаны трэнер нашай краіны Міхаіл Бура, якому ў аўторак споўнілася 60 гадоў. Газета ПАГОНЯ далучаецца да ўсіх віншаванняў і жадае мэтру гарадзенскага гандболу доўгай і плённай працы.**

**На жаль, пачатак нацыянальнага першынства стаўся не зусім прыемным для «Гараднічанкі» і яе трэнераў. У першых стартавых гульнях нашыя дзяўчаты сустракаліся з чэмпіёнкамі з «БДзПА» і двойчы саступілі - 50:29 і 52:33.**

**Аднак не трэба рабіць па дэбютных гульнях далёка ідучых высноваў. Каманда ў нас маладая (сярэдні ўзрост - 19 гадоў) і перспектыўная. Пра што сведчыць прадстаўніцтва «Гараднічанкі» ў моладзевай зборнай Беларусі Ганны Пачарылы, Наталлі Платонавіч, Таццяны Кердаль і Юліі Кісель. Ёсць у калектыве і «завадатарка» - дасведчаная Інга Аўдзеенка. Не так даўно наша ляўша-паўсярэдняя абараняла гонар нацыянальнай зборнай. Толькі прозвішча ў Інгі тады было дзявочае - Кулік.**

**Наступныя гульні ў чэмпіянаце Беларусі «Гараднічанка» праводзіць у Менску з «РВАР-БДзПА-2» 2-га і 3-га лістапада.**

КАЛЕЙДАСПОРТ

**Гарадзенскія** цяжкаатлеты 85-86-га гадоў нараджэння заваявалі першае месца на Алімпійскіх днях моладзі, якія скончыліся ў нашым горадзе ў нядзелю.

У параўнанні з мінулым годам, на дзве пазіцыі ўзняліся гарадзенскія баксёры 16-17-гадовага ўзросту па выніках Алімпійскіх дзён, што прайшлі ў Салігорску. Сёлетняе месца гарадзенцаў - пятае.

***

**Перамогай** гарадзенкі Таццяны Васілеўскай скончыўся XIV нацыянальны фестываль па бегу «Языльская дзесятка». Нядзеляй у Маладзечна з'ехалася больш за тры тысячы аматараў бегу з усіх абласцей нашай краіны.

***

**Гарадзенская** школа N6, стала ўладальніцай пераходнага Кубка 56-й гарадской Спартакіяды школаў. Добрымі вынікамі ў кіламетровым забегу вызначыліся вучні дзесятага класа Віктар Шумель (3,05 хвіліны), Радзівон Сымах (3.07) і Ганна Рыцэвіч.

**Падрыхтаваў Дзяніс Курчэўскі**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: Гродзенскае грамадскае аб'яднанне "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 24.10.2001 г. Замова 2 998 Наклад 6 768

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - тры ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Кампутарная вёрстка: Аляксей Салей
Кампутарны набор: Ірына Салей
Рэкламны менеджэр: Ната Сакалова